 

## ВЫСНАВЫ

А запраўды я ня быў ні Юрым, ні Франьцішкам, — быў вольным і незалежным духам, толькі ў беларускай вопратцы. Шукайце-ж!

*І. Абдзіраловіч, «Адвечным шляхам», 1921 г.*

З вышэй разгледжанага даводзіцца зрабіць наступныя высновы:

1. Ува ўсіх выдадзеных Скарынам кнігах і ведамых сяньня архіўных дакумэнтах і актавых датычных яго запісах, Скарынавае прозьвішча разам зь імем сустракаецца каля 200 разоў, і заўсёды зь імем *Франьцішак*. Толькі ў копіі аднаго дакумэнту, кракаўскае прывілейнае граматы караля Жыгімонта з 25 лістапада 1532 году, і толькі раз, перад Franciscii яшчэ ёсьць і Georgii.

2. Паколькі ад 1858 году, году першае публікацыі тэксту вышэй згаданай каралеўскай граматы, мінула звыш сто год і за гэты час ува ўсіх нававыяўленых актах аб доктару Скарыну, — а ведама іх цяпер больш трыццаці, — імя Georgius, *Юры*, больш ніразу не зьявілася, дзеля гэтага стае вельмі сумлеўным, ці імя *Юры*, побач імя *Франьцішак*, Скарына нагул меў, і, наадварот, выглядае правільным цьверджаньне 1925 году Г. Лаўмянскага аб тым, што ў Скарыны яго ня было, і што ў ваднэй адзінай копіі аднаго адзінага лацінскага дакумэнту зьявілася яно праз звычайную апіску перапісчыка дзеля пераблытаньня слова Egregii з Georgii.

3. Ужываньне прозьвішча Скарыны бязь ягонага запраўднага пэўнага імя *Франьцішак*, ды падстаўляньне заміж яго імя *Юры*, або, з расейскага, *Георгій*, ня мае пад сабою ніякога дакумэнтнага абгрунтаваньня. Падмена гэтая апошнімі дзесяцігодзьдзямі праводзіцца ў падсавецкім друку ня з увагі на навуковую праўду, а зь міркаваньняў толькі палітычных, каб Беларуса-Скарыну зручней было выкіраваць у «общерусского» дзеяча, а ягоную культурна-духовую спадчыну зьвязаць з Масквой і яе вялікадзяржаўнымі канцэпцыямі.

4. Ведамае пэўнае бясспрэчнае ў Скарыны толькі адно імя — *Франьцішак*. Дзеля гэтага што гэтае й толькі гэтае імя ўжываў заўсёды сам Скарына, дык гэтым імем і трэба доктара Скарыну называць. Імя *Юры* — *Georgius*, — паколькі існаваньне яго ў Скарыны з кажным годам стае ўсё больш і больш сумлеўным, не павінна ўжывацца без агаворкі, што яно ня пэўнае. Ніколі-ж не павінна ўжывацца прозьвішча доктара Скарыны толькі з адным імем *Юры*, бо гэта яўна пярэчыць і фактам, і волі самога Скарыны, выказанай у кнігах яго выданьня, дзе толькі *Франьцішак*.

5. Прозьвішча *Скарына* яўна паходзіць із старабеларускага *скара* — скура. Паказвае яно на старыя радавы занятак Скарынаў ці то гандлем скурамі й аўчынкамі, ці прамысловаю іх апрацоўкай. Дык у прозьвішчы доктара Скарыны адбітак таго багацьця зьвярынаю й скурамі, якім слыла калісьці старавечная Полаччына.



## НАВЕЙШЫЯ ПРАЦЫ ПРА ДОКТАРА ФРАНЬЦІШКА СКАРЫНУ
**ў выданьні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

*С. Брага:* Доктар Скарына ў Маскве. Ню Ёрк — Мюнхен, 1963. Цана — 0,50 даляраў.

*С. Брага:* Партрэты Доктара Скарыны. (У часапісе КОНАДНІ, № 7. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Ню Ёрк — Мюнхен, 1963). Цана часапісу — 2.00 дал.

*С. Брага:* Лякалізацыя жыцьцяпісу Доктара Скарыны. Ню Ёрк — Мюнхен, 1965. Цана — 0,50 дал.

*С. Брага:* Пытаньне імя Доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. Ню Ёрк — Мюнхен, 1967. Цана — 0,50 дал.

Выпісаць гэтыя выданьні можна праз:

Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences, Inc.
3441 Tibbett Avenue
New York, N. Y. 10463. U.S.A.

 

